НАША НІВА

*Беларуская газэта* *Вільня №4, 1994*

**ЮРКА ВІЦЬБІЧ.** Вынаидзеная ім формула змагання и выжывання сьведчыць пра тое што паміж здрадаю и расстрэлам для нацдэма у сталінскія часы мог быць і трэці шлях

**МАСКУЛЬТУРА** — адзіная форма паўнавартаснага иснавання беларушчыны сёньня Але яна ўсё яшчэ ня ўлічваецца у традыцыйным падзеле культуры на прафэсійную и самадзейную

**ГРЭЙМАС.** У сваім эсэ пра культуру парыскі сэміётык Альгірдас Юліюс Грэймас ні разу ня згадвае Беларусь І аднак гэты тэкст — *mutatis mutandis* — зусім пра нас і для нас.

**МІЛАН КУНДЭРА.** Тры ўрыўкі зь яго апошняе кнігі «Здраджаныя тэстамэнты»... Чаму пасьля канчатковага краху таталітарызму чэскія пісьменьнікі эмігранты не вяртаюцца дадому?

БЕЛАРУСКІ ПАРАДАК

*Сяргею Паулоускаму*

Паглядзі над дахамі горада
У вячорнай, дажджыстай імгле
Возіць хохлікаў Баба Каргота
На сваёй абтрапанай мятле

Прыкра Мокра Імжака цярусіць
Усю ноч, а яна, хоць памры,
«Мы біларусы з братияю Русьсю!»
Гугнявіць з хохлікамі да зары

АМ

Апавяданьне

# ІМІТАЦЫЯ

Сяргей Стакоўскі

Ахоуніkі вывелі яго з грымёркі правялі люднымі калідорамі да выхаду на сцэну Адзін зь іх суправаджаў да самага раяля каб ён раптам не натыкнуўся на мікрафонную стойку ці барабан Ягонае зьяўленьне выклікала бурлівую рэакцыю дзясяткау тысячаў чалавек, якія сабраліся перад сцэнай Ягоны твар, засяроджаны хвіліну таму, разгарнуўся у неабдымнай усьмешцы, і ён памахаў вольнай рукою У другой ён, як заўсёды, трымаў бліскучы мэталёвы (каб ня біўся ад пастаянных падзеньняў) кубак з улюблёным кактэйлем кава з каньяком Рэмі Марцін.

Ён намацаў зэдлік каля раяля, паставіў кубак справа ад пюпітра и падсунуў мікрафон бліжэй да вуснаў Цяпер ён сапраўды пачуваўся каралём як яго ужо даўно называюць у прэсе.

— Hello! Even nothing thinking, that you'll be bored today!

Натоўп які даўно чакаў аднаго з заўсёдных выразаў, адгукнуўся ў знак сваёй згоды

— Thanks many thanks! — ён грукнуу па клявішах абцасам правае нагі, засьмяяўся й прасьпяваў першы радок свайго вядомага блюзу. Вэрхал у зале ўжо не сьціхаў і завіснуў у паветры адным складаным акордам. Тады ён уціснуў галаву ў плечы выцягнуў наперад кісьці рук са сваімі даўгімі пальцамі, крыху прыўзьняўся и рэзка апусьціўся ўсім целам паставіўшы пальцы на клявішы Раяль азваўся гучна й жорстка

Асьлепнуў ён дауно, у дзяцінстве, пасьля цяжкое хваробы. Цяпер яму было ўжо за шэсьцьдзесят, ён меў славу, дзясяткі ўласных кружэлак, сярод якіх залатыя и плацінавыя Ён меў жонку й дзяцей, у яго быў шыкоўны дом, свая студыя й дарагія машыны Ён быў багаты. І гэта ўсё давала падставу лічыць, што зрок — далёка ня самае галоўнае ў жыцьці. Ва ўсялякім выпадку яго адсутнасьць не перашкодзіла яму дамагчыся посьпеху А таму на людзях ен увесь час сьцьвярджаў, што зусім не адчувае сябе у нечым абдзеленым у параўнаньні з астатнімі. Не зважаючы на паважны ўзрост, на людзях ён быў жвавы, падкрэсьлена бестурботны, літаральна сыпаў фрыволынымі показкамі

Сыгранасьць — у яго з раялем і у іх з аркестрам — была цудоўная. Ён хоць і ня бачыў клявішау, але рукі яго настолькі арыентаваліся ў прасторы, што недакладнасьць ніколі не перавышала шырыні белых і нават вузкіх чорных рычажкоў А наколькі ён лічыўся майстрам імправізацыі, дык гэта і ўвогуле дазваляла яму ня думаць пра памылкі

З такой жа дасьціпнасьцю на ягоныя прымхі рэагаваў аркестар — гурт даўно сабраных разам прафэсіяналаў. Твар музыкі з чорнымі акулярамі быў заўсёды павернуты ў бок залі, таму настрой яны вызначалі па ягонай сьпіне, звычайна апранутай у бліскучы срэбны летнік. Калі ён выбухау у фэерычным уздыме, яму тут жа дапамагалі разам усе трубы Бубнач ліхаманкава малаціў па ўсіх талерках — «вешаў жалеза». Калі ягоныя пальцы крадучыся прабіраліся па бела чорна белых прыступках, да іх тут жа далучаліся трамбон і Даяна — мажная сьпявачка зь нізкім глыбокім голасам Калі ж ён лірычна закідвау галаву й пагойдваўся, быццам у нейкім павольным танцы, пачынаў саляваць саксафон — сваім таямнічым, крыху сіпаватым голасам

Пазбаулены здольнасьці бачыць, што адбываецца вакол яго, ён прызвычаіўся расфарбоўваць у розныя колеры той гукавы сьвет, у якім ён існаваў даўно й паўнакроўна Тых далёкіх і нешматлікіх візуальных уражаньняў, якія здолелі захавацца зь дзяцінства на ўсё жыцьцё яму даўно не хапала, таму ён увесь час ствараў новыя фантастычныя вобразы Тут былі свае цяжкасьці, бо беспамылкова ён памятаў толькі тры колеры — белы, чырвоны й чорны З усімі астатнімі разабрацца яму было складана. Напрыклад ён даволі прыблізна ўяўляў жоўты колер і зусім ня быў упэўнены, ці адпавядае ягонае ўяўленьне рэальным фарбам у жыцьці. Ну а сіні и зялёны ён так ніколі й ня здолеў вылучыць у два асобныя колеры Яны пастаянна блыталіся, пераходзілі адзін у другі а адсюль узьнікалі цяжкасьці з фіялетам блакітам і марской хваляй

Але ўсе гэта было зусім не істотна бо у створанай сваім уяўленьнем рознакаляровай мадэлі жыцьця ён быў адзін, і ніякіх непаразуменьняў праз гэта не ўзьнікала

Канцэрт шоў ужо дауно, і яго энэргетыка перадавалася ўсёй залі. Прыслуга не забывала свае абавязкі, а таму ў кубку не скончалася гарачая кава з каньяком Усё йшло нармальна

Справа ад калёнкі каля самага краю сцэны самааддана вішчэла нейкая дзяўчына, мабыць бляндынка гадоў дваццаці Яна так доўга трымала вельмі высокую ноту, што ён ня ўтрымаўся и з захапленьнем працягнуў у яе бок руку

— It's just amazing!

Дзяўчына зразумела што на яе зьвярнулі ўвагу й начала ад радасьці калаціцца у сапраўднай істэрыцы

— I love you!

Ён расьсьмяяўся

— Oh! It appeals to me! I'm delighted to hear it

Дзяўчына разьвесяліла яго й яшчэ больш палепшыла и так неблагі настрой

Музыка была морам, якое сваімі хвалямі білася аб бераг залі. У залежнасьці ад кампазыцыі яно альбо гуло й пенілася разьбіваючыся аб вострыя скалы на мільярды бліскучых пырскаў, альбо лашчылася, фліртавала зь пяшчотным пяском даўгой стужкі суцэльнага пляжу

*Працяг на старонцы 4*

*Працяг са старонкі 5*

рамонты й даробкі помнікаў таго часу, ён усё ж вымушаны пацьвердзіць, што найбольшыя страты Смаленскай, да прыкладу, архітэктуры былі нанесеныя ў часы гаспадараньня расейскіх губэрнатараў Аша й Хмяльніцкага

Што ж, пішучы сваю працу ў Менску ў 1946 г, І Хозераў мог «перагібаць» на ўсходні бок сьведама Ён не памыляўся ў галоўным. вывучаючы беларускую архітэктуру, ён не адрываў ад яе спадчыну ўсходніх тэрыторыяў, што не ўвайшлі ў склад БССР Руплівы дасьледнік, арыенталіст паводле перакананьняў, ён стаяў, між тым, ля вытокаў школы нацыянальнае археалёгіі Беларусі, задаўшы ёй тон мэтафізычнае драмы

Стывэн Бэ

# ДЭМАКРАТЫЯ Ў ЗАПАВОЛЕНЫМ ДЗЕЯНЬНІ

**Лардэйрэ Гі. Канстытуцыі й сыстэмы выбараў: што кажа гістарычны вопыт. — Менск: Фонд Сораса-Беларусь, 1994. 38 с.**

Гэты француз — вялікі гумарыст «Французы доўгімі пакручастымі шляхамі зноў прыйшлі да таго абрысу рэжыму ўлады, які англічане пачалі ствараць у XIII стагодзьдзі, а завяршылі ў 1689 годзе — на сто гадоў раней ад Вялікай француcкай рэвалюцыі» Так іранізаваць над уласным выбарчым і канстытуцыйным ладам можа толькі Прэзыдэнт Інстытуту дэмакратыі, для якога гэтая дэмакратыя — ужо даўно звыклы прадмет дасьледаваньня Таму ён можа сьцьвердзіць «Грамадзяне павінны зразумець, што выбары не зьяўляюцца нейкім апытаньнем, што мае на мэце з большай ці меншай дакладнасьцю высьветліць меркаваньні выбаршчыкаў або адрозныя кірункі грамадзкае думкі. Разыходжаньні чалавечых меркаваньняў ня ведаюць межаў». Выбары здараюцца, дадамо ад сябе, каб сфармаваць органы ўлады

Кніжка робіць магчымаю іронію над беларускай палітычнай пэрспэктывай Зыходныя пазыцыі наступныя

*1 Мажарытарны парадак выбараў у адзін тур прыводзіць да палярызацыі правых і левых сілаў — гэта амаль імгненна ператвараецца ў двухпартыйнасьць. Перамагчы ў выбарчай акрузе можна зь перавагаю нават у адзін голас У выніку краінай кіруе моцны і стабільны ўрад Такім чынам, невыпадкова краіны, дзе дэмакратыя функцыянуе лепш за ўсё, скарыстоўваюць гэты парадак выбараў.*

*2. Прапарцыйныя выбары раскрываюць галасы электарату Апынуўшыся перад веерам альтэрнатываў, грамадзянін галасуе за партыю, якая здаецца яму найбольш блізкай. Такім чынам, кожная сацыяльная групоўка можа стварыць уласную партыю й разьлічваць пры гэтым на пэўныя посьпехі. Першай краінай, якая прыняла стагодзьдзе таму закон аб прапарцыйнай сыстэме, была Бэльгія. У выніку утварыліся «лінгвістычныя» партыі й абвастрыліся супярэчнасьці паміж фляманцамі и валёнамі.*

Парлямэнцкая большасьць на Беларусі патрабуе мажарытарнай сыстэмы — пад лёзунгам «Ніякіх зьменаў!» У выніку — «Стабільнасьць», якая азначае для Беларусі далейшую стагнацыю

Апазыцыя, каб прарваць манатоннасьць дыктатарскага рэжыму й падштурхнуць працэсы тварэньня шматпартыйнага жыцьця на Беларусі, імкнецца прыўнесьці ў Выбарчы закон элемэнты прапарцыйнай сыстэмы У дзесяцігадовай пэрспэктыве гэта хавае ў сабе пагрозу беларускаму дзяржаўнаму ўнітарызму

Беларусь — перакулены сьвет. І самае цікавае — няма ніводнага бяскрыўднага выйсьця

Але найбольшы гумар у тым што нас хвалююць падобныя праблемы ў часы дыктатуры... Гэты француз - вялікі жартаўнік

А Дзярновіч

*Здымак Алены Адамчык*

# КНІГА СЁНЬНЯШНЯГА ДНЯ

**Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы — Мн.: Полымя, 1993 — 160 с.. іл**

Гэтая праца не магла зьявіцца ні раней, ні пазьней, а толькі ў цяперашні час, калі пад напорам зьнешніх абставінаў і нахабных адраджэнцаў беларусы змушаныя мяняць свае жыцьцёвыя стэрэатыпы Наш люд падобных зьменаў ня любіць, таму звыкла ўпіраецца

Ідэя незалежнасьці як найвышэйшай каштоўнасьці народу ўваходзіць у сьведамасьць нашых гісторыкаў з такой жа цяжкасьцю, як і ў менш дасьведчаных слаёў грамадзтва Адно са сьведчаньняў таму — гэтая праца, напісаная маладым чалавекам

Каштоўнасьць кнігі бачыцца не ў яе навуковай вартасьці, а ў дакладнасьці адлюстраваньня сёньняшняга стану гістарычнай навукі ў пераходны пэрыяд ад калёніі да незалежнасьці. Замена каляніяльнага мысьленьня на незалежніцкае — справа няпростая й патрабуе часу За гэты час, бывае, узьнікаюць «прамежкавыя» формы ўсьведамленьня ўласнага гістарычнага лёсу, дастаткова пачварныя, кароткажывучыя, але тым ня менш, рэальныя Гэтая праца выразна адлюстроўвае адну з такіх формаў — яна «зрэз свайго часу»

Беларускі патрыятызм яе аўтара сп В Насевіча выяўляецца ў своеасаблівай аўтарскай трактоўцы. Гісторык зьдзіўляецца «жыцьцёвай сіле народу» які вытрымаў усе нягоды й захаваў «свой непаўторны нацыянальны характар» а цяпер «упершыню атрымаў сваю дзяржаву». У той жа час В.Насевічу ўласьцівае імкненьне «не пакрыўдзіць суседзяў» «Літоўцы глядзяць на нас з крыўдай» — гэта за тое, што Вялікае княства Літоўскае на Беларусі пачалі называць беларускай дзяржавай Мы «пакрыўдзім нашых украінскіх суседзяў», калі назавем мову дакумэнтаў 15-17 стст старабеларускай. Урэшце у вачах дасьледчыка «спробы абвясьціць Вялікае княства Літоўскае «беларускай дзяржавай»» выглядаюць абразьлівымі для... беларусаў Маўляў «што ж гэта за народ, які некалькі стагодзьдзяў меў уласную дзяржаву, а калі страціў яе — за няпоўныя два стагодзьдзі ледзь ня цалкам згубіў самасьведамасьць, пачуцьце нацыянальнай годнасьці?» Цікавы паварот, дакладней, заглыблены комплекс нацыянальнае непаўнавартасьці.

Трохі ненатуральна выглядае ўспрыйманьне дасьледчыкам беларускага народу як нейкага пастаральна-рахманага этнічнага ўтварэньня Гэты народ, у адрозьненьне ад іншых «шукаў выратаваньня не ў скарэньні, ці нават зьнішчэньні суседзяў а ў братнім саюзе зь імі»

А як жа быць зь лесам яцьвягаў і іншых балцкіх плямёнаў, якія трапілі ў зону беларускай каляніізацыі? Той жа В.Насевіч дадзіць: «Пасьля ўтварэньня Вялікага княства Літоўскага славянская каляніізацыя берагоў Віліі яшчэ больш узмоцніцца і прывядзе да амаль поўнай беларусізацыі Віленскага краю ў 19 ст.». Калі яшчэ ўзгадаць крывавую барацьбу з Масковіяй, упарты супраціў палянізацыі, то атрымліваецца што не такі ўжо выключна рахманы народ — беларусы, звычайны, які, як і ўсе астатнія змагаецца за месца пад сонцам

Навуковая значнасьць працы В.Насевіча крыецца ў папулярызацыі малавядомай шырокаму чытачу палітычнай гісторыі ВКЛ на раньнім этапе йснаваньня дзяржавы Калі пакінуць збоку фактаграфічную частку працы — вельмі аб'ёмкую й багатую (зь ёй можна разьбірацца бясконца) а зьвярнуцца да канцэптуальнай, то адразу ўзьнікаюць цяжкасьці, найперш зь яе выяўленьнем сярод інфармацыйнага тэксту

У кнізе няма канцэпцыі якую можна было б назваць пасьлядоўнай або цэласнай Дакладней будзе казаць аб шэрагу меркаваньняў і думак аўтара часта няўзгодненых і ўзаемасупярэчлівых Уся канцэпцыя (калі можна тут скарыстаць гэты назоў) грунтуецца на апэраваньні двума паняцьцямі: «Літоўская дзяржава» і «Вялікае княства Літоўскае». Але найперш высьвятляецца пытаньне аб гістарычнай Літве — што гэта такое й дзе яно разьмяшчалася. Тут у В Насевіча няма разыходжаньня з афіцыйнай літоўскай вэрсіяй. У 13 ст «Літва ўяўляе сабой адзін са шматлікіх балцкіх народаў побач зь яцьвягамі прусамі жамойтамі, куршамі земгаламі, селамі і латгаламі». «Тэрмін «Літва» ужываўся ў розных сэнсах як этнічная назва назва тэрыторыі, што падпарадкоўвалася непасрэдна літоўскай дынастыі, як агульная назва плямёнаў і княстваў, якія прызнавалі сюзэрэнітэт гэтай дынастыі»

Тэрыторыяй летапіснай Літвы, якая падразьдзялялася на княствы: Упіту, Дзяволтву, Нальшаны і, магчыма, іншыя, — дасьледнік лічыць арэал распаўсюджаньня археалягічнай культуры ўсходнелітоўскіх курганоў з цэнтрам у раёне Кернава, Вільні, Трокаў У першай палове 13 ст тут выдзяляецца асоба Міндоўга які падпарадкаваў сабе частку Літвы

Пасьля мангольскага нашэсьця аслабленай Русі пагражаюць літоўцы Сумежныя зь Літвой рускія землі стараліся жыць у згодзе зь небясьпечным суседам: бесьперашкодна прапускалі праз свае межы літоўскія ваенныя атрады, а калі згасаў мясцовы княскі род, то запрашалі да сябе літоўскіх кунігасаў (стар 36). Такім чынам і Міндоўг усталяваўся ў Наваградку — «ён валодаў Літвой і Ноўгарадчынай адначасова і са згоды мясцовага насельніцтва» Але гэта яшчэ не было пачаткам ВКЛ У другой палове 13 ст ідзе працэс стварэньня Літоўскай дзяржавы (ня блытаць з ВКЛ — *Г.М.*). Для Ноўгарадзкай зямлі наступіў рашучы момант — трэба выбіраць канчаткова, з кім ёй быць — зь Літвой, ці Валыньню. «Наступны ход падзей паказвае, што насельніцтва Ноўгарадчыны пацьвердзіла свой ранейшы выбар на карысьць паўночнага суседа»

Далей у В Насевіча ўсе пайшло гладка. Зьвяртаю ўвагу чытача на ключавую фразу: «Замацаваньне панямонскіх гарадоў у складзе **Літоўскай дзяржавы** (выдзелена мною — *Г.М.*) азначала пачатак непарыўнага сымбіёзу, у якім адзін бок ня мог абыйсьціся без другога» «З гэтага часу набывае сэнс назва «Вялікае княства Літоўскае і Рускае», якая ўвойдзе ва ўжытак праз некалькі дзесяцігодзьдзяў у часы Гедыміна (магчыма, ужо пры Віценю)»

Вось мы й дабраліся да сутнаснага погляду гісторыка В.Насевіча на праблему ўтварэньня ВКЛ Ён лічыць, што ў другой палове 13 ст існавала «Літоўская дзяржава» і да яе былі далучаныя панямонскія рускія гарады Аднак з працы В.Насевіча нічога нельга даведацца ні пра «Літоўскую дзяржаву», ні пра тое, што дасьледчык разумее пад гэтым выразам Бо далей аўтар у той жа працы сьцьвярджае, што пазьней у 14 ст «Сама Літва якраз знаходзіцца на папярэднім вітку эвалюцыйнай сьпіралі — на стадыі ўтварэньня цэнтралізаванай раньнеклясавай дзяржавы». Узьнікае заканамернае пытаньне: «Як сп. В.Насевіч бачыць дэфініцыю тэрміна «дзяржава»?» Мяркуючы па ўсім, яна моцна разыходзіцца з прынятай у навуцы Інакш у працы не зьявілася б непісьменнае з пункту гледжаньня тэорыі дзяржавы тлумачэньне сутнасьці ВКЛ «Літва бясспрэчна дамінавала ў палітычным сэнсе, і гэтак жа бясспрэчным было дамінаваньне Русі ў культурнай сфэры. Літва дала новай дзяржаве пануючую дынастыю й значную частку пазьнейшага шляхецкага саслоўя. Русь дала структуру нізавога дзяржаўнага й адміністрацыйнага апарату, законы, дзяржаўную мову». З працытаванага тэзісу вынікае не палітычнае дамінаваньне Літвы а нешта зусім іншае менавіта што Вялікае княства Літоўскае было ўсходнеславянскай дзяржавай з удзелам балцкага элемэнту Запрашэньне пануючай дынастыі збоку лічыцца ў навуцы клясычным выпадкам дзяржаваўтварэньня

Усё ж імкненьне «не пакрыўдзіць суседзяў» наўрад ці можна лічыць імпэратывам гістарычнага дасьледаваньня. Шкада таксама, што сп. Насевіч пры выданьні працы палічыў за лепшае абыйсьціся без навуковай рэцэнзіі. Верагодна, у адваротным выпадку менш было б у тэксьце яўных супярэчнасьцяў і палёт думкі дасьледчыка атрымаў бы неабходны кантроль Мяне, прызнацца, шчыра ўразіла своеасаблівым спалучэньнем прыгажосьці и фантазійнасьці выснова В Насевіча, што калі часам сёньняшнія беларускія сяляне называюць сябе рускімі то тут «адбіваецца не атаясамліваньне сябе зь вялікарусамі, а спадчына старажытных часоў, Русі Яраслава Мудрага і Ўсяслава Чарадзея»

Мушу на заканчэньне сьцьвердзіць, што яшчэ не аднойчы давядзецца вяртаца й зьвяртацца да працы В Насевіча, каб удакладніць паходжаньне якога небудзь князя (гензалягічныя табліцы зьмешчаны ў канцы кнігі), згадаць патрэбны факт з палітычнай гісторыі 14 — 15 стст Аднак першаснае ўражаньне аб ёи застаецца нязьменным — гэта кніга сёньняшняга дня

Грак Мастоўскі

# БЕЛАРУСКАЯ МАСКУЛЬТУРА

*Фрагмэнты калеквіюму ў рэдакцыі «НН»*

* * *

Апошнія гады тры беларушчына запынілася ў сваім разьвіцьці Прафэсійная ды аматарская беларуская культура сыходзіла з тае зададзенасьці, што нацыянальная культура (найперш, мова й гістарычная сьведамасьць) існуе ў адмысловых легальных рэзэрвацыях — у творчых саюзах і ў сельскім клюбе У выніку цяпер гэтая культура перажывае глыбокі крызыс Яна ня створаная дзеля таго, каб абслугоўваць увесь спэктар культурных запатрабаваньняў грамадзтва Дзеля гэтага культура мусіць успрыняць іншую, не фармальную, а зьместавую кляпсыфікацыю ды функцыянальнасьць А менавіта — культура высокая й культура масавая У ранейшых культурных утварэньнях гэтыя крытэрыі ня ўлічваліся, бо для масавае культуры не йснавала масавага спажыўца, а высокая культура страчвала свой цэнз ва ўсеагульнай ураўнілаўцы

* * *

Такая сытуацыя й цяпер часта ўспрымаецца як дадзенасьць Ставіцца задача выкарыстаць дзяржаўныя рычагі дзеля пашырэньня нацыянальнае культуры й мовы зьверху Але ж мы бачым, што дзяржаўнасьць мовы й зьвязаны зь ею пакет пратэкцыяністцкіх актаў — гэта толькі фарс Не з-за чынавенства, а з прычыны адсутнасьці тых культурных каналаў, па якіх павінна была б ісьці беларусізацыя Аказалася, што сама дзяржава ў нашым выпадку можа толькі закансэрваваць тое становішча, якое даўно склалася культура наогул — сама па сабе, беларуская культура — асобна

* * *

Апошнім часам у краіне адбыліся пэўныя зрухі да вылучэньня высокай культуры Варта згадаць тут толькі «закід» элітарнасьці, у якой «абвінавачваюць» часам творчыя суполкі, выданьні (у прыватнасьці, «НН») ды асобных творцаў Варта заўважыць, што яшчэ ўчора рэдкія, «дэфіцытныя» пераклады на беларускую мову Камю, Борхеса, Норвіда ўжо ператварыліся ў стабільную праяву беларускай культуры и абяцаюць стаць адным з вызначальных яе фактараў Нешта падобнае адбываецца і ў асяродку музыкаў, і ў асяродку мастакоў Паўсюль паўстаюць новыя для беларушчыны формы й жанры новае, урбанізаванае культуры Высокая культура першая вылучацца з тае куламесы, якая называлася «беларускай савецкай культурай»

Цяпер настае час вылучэньня культуры масавай Гэта яна мусіць забясьпечыць жывое бытаваньне беларускае мовы ды пашырэньне гістарычнае нацыянальнае сьведамасьці. Гэта яна мусіць злучаць высокую культуру, жыцьце асобнага чалавека ды ідэалёгію беларускай дзяржавы Гэта яна мусіць запаўняць прорву ў градацыі прыкладаў для пераймання — паміж спраўным суседам, які хвацка ўладкоўвае свае жыцьцё, і Арнольдам Шварцэнэгерам Яна мусіць адаптаваць праявы сусьветнае маскультуры для беларускага чалавека. Сёньня такі ада птатар — маскультура расейская

* * *

У традыцыйным грамадзтве масаваю паводле сутнасьці культураю былі фальклер і этнаграфічныя асаблівасьці побыту Такая культура за апошняе паўстагодзьдзе на Беларусі моцна падбітая Але тыя масы народу, што перабраліся ў гарады, засталіся носьбітамі тае мэнтальнасьці Таму зварот да этнічных архетыпаў — першы адпраўны пункт, зь якога можна вымалёўваць усю карціну аптымальных стэрэатыпаў, зацікаўленьняў і густаў нацыі Тэхналёгія, вядома, дэтэрмінуе й зусім новыя формы культуры (тэле, відэо..), але ўсе яны жыцьцёвыя толькі на спэцыфічнай этнічнай глебе (згадаем індыйскае кіно)

* * *

Перакладаць Чэйза й відзікі можна ўжо сёньня Дастаткова мець крыху авантурызму Але такая праца не стварае падмурак маскультуры Маскультура — завод, які мусіць быць збудаваны на гэтай зямлі, на якім мусяць працаваць тутэйшыя людзі У шырокім сэнсе — гэта ўся краіна, увесь народ І тут мы мусім зьвярнуцца да галоўнага аб'яднаўчага фактару нацыі, на якім і будуецца маскультура ва ўсіх разьвітых краінах Гэта паняцьце патрыятызму

Тыя сфэры жыцьця, дзе нараджаецца й культывуецца масавы патрыятызм сёньня на Беларусі ніяк ня зьвязаныя зь беларушчынай Гэта — войска і ўся гуманітарная аўра вакол яго, гэта — спорт, гэта — хобі увесь спэктар чалавечых за-



хапленьняў Дастаткова ўявіць сабе сапраўды беларускае войска, нават толькі як прадмет грамадзкага інтарэсу, спартовае таварыства, якое выступае у эўрапейскіх кубкавых спаборніцтвах, скаўтаў, шматлікія клюбы паляўнічых, аўтамабілістаў, кінолягаў дастаткова ўявіць, што ўсё гэта забясьпечана масавай прэсай, сымболікай ды іншымі атрыбутамі маскультуры, што ўсе гэта, безумоўна, па-беларуску і — на тутэйшых традыцыях, — каб уявіць сабе нармальную Беларусь

* * *

Па прыклады можна не хадзіць далёка Вось Літва Некалькі масавых выданьняў толькі па баскетболу! Людзі ў краіне ведаюць сваіх баскетбольных герояў, ведаюць сваіх вайскоўцаў, сваіх буйнейшых бізнэсмэнаў, нават мафіёзі ведаюць. Людзі ведаюць сваіх людзей, зусім не абавязкова — палітыкаў Некалькі выданьняў толькі для аўтамабілістаў. Пра масу поп-культурных і жаночых часопісаў ня варта й згадваць І ўсё гэта, ясная рэч, па-літоўску Краіна з трохмільённым насельніцтвам Што казаць, наколькі гэта кансалідуе літоўцаў і стварае жывое аблічча Літвы Ім есьць чым запаўняць свае тры тэлевізійныя каналы. Так ствараецца нацыянальная маскультура Што з гэтага выходзіць, яшчэ лепей відаць у Польшчы, у Нямеччыне

* * *

Прыклад зь Літвою наводзіць на думкі пра сацыяльны аспэкт Усе пералічаныя сфэры жыцьця належаць найперш сярэдняй клясе, маскультура ствараецца ў гэтым асяродку і яму адрасуецца Магчыма, на Беларусі якраз гэтая кляса (няхай яшчэ зародкавая) і не бярэцца у разьлік сучаснымі адраджэнцамі, якія ўяўляюць сабе грамадзкі падзел — на люмпэнаў і намэнклятуру, зь інтэлігенцкай праслойкай, вядома Але такое ўяўленьне, як і з падзелам самое культуры на прафэсійную і самадзейную, — атавістачнае. Арыенцір на незадаволеных мусіць быць зьменены на арыенцір на нармальных Чаго дасягнулі незадаволеныя разбуральнікі мы ведаем А вось чаго могуць дасягнуць нармальныя стваральнікі, будаўнікі кожны свайго жыцьця, — мы ведаем толькі на прыкладах іншых краінаў

# ЯК Я ХАЦЕЎ СТАЦЬ ЗЯЛЕЗНЫМ ЧАЛАВЕКАМ

Паэт Алег Мінкін

Я ня з тых, хто зусім забывае пра сваё цела Наадварот, я з уласнага досьведу ведаю, што праз цела дадзена нам шмат чаго дасягнуць і палепшыць у жыцьці больш тонкай, чым цела, матэрыі, якую мы называем «духам», «душою». І сапраўды, для йснаваньня ў фізычным сьвеце «духі» нашыя зьмешчаныя у адмысловых і найскладанейшых біялягічных апаратах-мэханізмах, якія не зьдзіўляюць нас толькі таму, што мы ад нараджэньня прызвычаіліся да іх Мы жывем у стане забыцьця свайго цела й за забыцьцё жорстка расплочваемся хваробамі ды хваравітымі станамі духу. Найчасьцей мы нават не разумеем, што крыніца пэсымізму — у выціснутасьці, выпетранасьці нашага цела, і шукаем прычыны зусім ня там у сацыяльным, эканамічным, ідэалягічным і г.д.

Увогуле жыцьцё кожнага з нас можна разглядаць як паступовае псаваньне нейкага першапачатковага, дадзенага нам ад нараджэньня, стану здароўя Таго, знаёмага нам у *дзяцінстве стану*, калі ад чуваеш у сабе лішак жыцьцёвае энэргіі, калі скачаш, сьмяесься ад неўсьвядомленай, сьветлай перапоўненасьці. Далейшае жыцьцё — страта гэтага стану, і калі ён даводзіцца да разбурэньня, дык застаецца або лекавацца, або праявіць волю і ўзгадаць пра цела. У гэтым сэнсе біблейскае «чалавек створаны для пакуты, каб, як іскры, узьнесьціся ўгору» можна зразумець і вельмі спэцыфічна: паколькі апроч цела нам у фізычным сьвеце нічога ня дадзена, дык, каб дасягнуць поступу ў духоўным, трэба сьведама трымаць цела «ў пакуце» — працаваць зь ім, не даваць яму спакою, каб і дух наш не закіс, не спарахнеў. Зьмяняючы груба-фізычнае, мы дасягаем якасных зьменаў у вытанчаным, духоўным пляне, што азначае вяртаньне да страчанага дзяцінага стану здароўя на больш высокім вітку духоўнага разьвіцьця. Больш за тое, праз мэтанакіраваную трэніроўку цела можна зазірнуць у глыбіні, якія чалавеку ў будзённым, звыклым (для мяне — сыта-леным, руцінным) існаваньні ніколі не адкрываюцца

Я зьведаў хваравіты, разбуральны, прасякнуты пэсымізмам стан нездароўя. І знайшоў у сабе крыху волі, каб пачаць выкарасквацца з таго заняпаду у якім апынуўся. Спачатку я займаўся вельмі мэханічнай справаю, імя якой — спорт. І нават мог стаць Зялезным Чалавекам Так кім званьнем у нас ахрышчваюць спартоўцаў, у якіх хапае цягавітасьці й моцы пераадолець дыстанцыю трыятлёну сьпярша чатыры км плаваньня, затым сто восемдзесят км гонкі на ровары, а на закуску марафонскі бег, — усё гэта робіцца безь перадыху Аднак падключыўшы да звычайнае фізычнае нагрузкі загартоўваньне й галадоўкі, я пачаў жыць у трохмернай прасторы, а гэта было нашмат цікавей, чым простае нарошчваньне сілы й цягавітасьці А ня так даўно я падключыў да свае практыкі й чацьвертае вымярэньне — адну з усходніх мэтодыкаў па ачышчэньню дзяцінага стану здароўя ад шкодных напластаваньняў рацыянальнага, ідэалягічнага, тэарэтычнага, пачуцьцёвага, — ад усяго таго, што мы лічым «сваім» У сапраўднасьці ўсё гэта — папяруха, якая замінае нам вярнуцца да першаснага, дадзенага нам «ад пачатку» стану і, нібы ад печкі ісьці ад яго ў зусім іншым кірунку гармоніі з прыродаю і космасам, часткай якіх, уласна, і зьяўляецца нашае цела

Часам, аднак, я ўсе ж крыху шкадую, што так і не пасьпеў стаць Зялезным Чалавекам Хоць, безумоўна, дзеля ўсьмешкі можна яшчэ паспрабаваць Добрая ўсьмешка ня самае горшае ў сьвеце

# Казімер Пшэрва-Тэтмаер

## НА ДЗЕНЬ АНЁЛА

На Дзень Анела б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны
На Дзень Анела б'юць званы,
растануць згукі іх як сны...

У цемрадзі гадзінай шарай
ідзе праз пусткі, праз імшары,
па топкіх багнах, па разлогах
і па закінутых дарогах,
задумлівасьць палёў, Журбота

Ідзе і сыпле смутку мліва
на пушчы, скутыя дрымотай,
на водаў глыбежы й разьлівы,
бы інь, што поўню аплятае.
Вядзе з сабою жаль з маркотай
Вунь выйшла на пагост санлівы
і на магілу той сядае,
што сьмерць спаткала маладою
сядзіць і ў сьвет глядзіць з нудою

На Дзень Анела б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны
На Дзень Анела б'юць званы,
растануць згукі іх як сны

Па ціхіх водах цені ходзяць,
туман па выдмах карагодзіць,
а рэчка ціха плешча ў змроку
і ўсё далей адносіць хвалі
Хтось скардзіцца ў ёй,
хтось заводзіць
плач несуцешны, поўны жалю
А рэчка ўсё цячэ й дзесь гіне,
губляецца ў гарах, аблоках
і ўжо ня вернецца з тых даляў,
куды так сумна адыходзіць,
і прападзе ў марскіх глыбінях,
і ужо ня вернецца з тых даляу

На Дзень Анела б'юць званы,
Марыю славяць хай яны,
і Бога славяць хай яны .
На Дзень Анёла б'юць званы,
растануць згукі іх як сны

Дымы ўзьнімаюцца нясьпешна
над вёскай, крытаю саломай —
снуюцца, цягнуцца ў бязьмежжа,
завіснуць хвілю нерухома
і дзесьці гінуць у прасторы
Мо даганяюць рэчак хвалі
і далятуць калісь да мора
А змрок прасоўваецца ў далеч,
усё гусьцейшы і цяжэйшы,
і усе шырэйшы і шырэйшы,
заліў даверху горы и пушчы,
заткау усю зямлю мярэжай
і ў неба ўсьпёрся, невідушчы

На Дзень Анела б'юць званы,
Марыю славяць хаи яны,
і Бога славяць хай яны
На Дзень Анела б'юць званы,
растануць згукі іх як сны..

Ідзе душа у самоце полем,
ідзе са злом сваім і болем,
ідзе па лесе і па збожжы
і злыбед, болю цягне ношу,
бадзяжны лёс свой праклінае,
кляне ў сьлязах свой кон страшлівы,
зь вялікай скаргай і адчаем
ідзе наўпрост па соннаи ніве,
ідзе, нібы закляты прывід,
а поруч вецер сьвішча и скача —
куды ня зьверне і ня скрывіць,
паўсюль чакае шлях жабрачы —
нідзе ня знойдзе ні супынку,
ані прытулку, ні спачынку...
Ідзе праз поле і ад мукі
над галавой ламае рукі

На Дзень Анела б'юць званы,
Марыю славяць хаи яны,
і Бога славяць хай яны

Пераклаў з польскаи Алег Мінкін



# СЁЕ-ТОЕ ПРА КУЛЬТУРУ

Альгірдас Юліюс Грэймас

«Усе гавораць пра надвор'е а ніхто нічога ня робіць» — гэтая канстатацыя Марка Твэйна, здаецца, цудоўна стасуецца да апісаньня цяперашняга стану літоўскае культуры Культура сёньня здаецца нібы нейкай абавязковай тэмай для іспыту на свабоду, якую кожны мусіць разглядаць як нейкую «Боскую Камэдыю», якую кожны мусіць паспрабаваць «тварыць» Замест таго, каб быць атмасфэраю, у якой чалавек, як рыба ў вадзе, лёгка лунае, культура літоўцам здаецца нібы нейкім пачэсным алтаром, да якога наблізіцца могуць толькі «прафэсіяналы», г зн пэдагогі, называныя *культурнікамі і навукоўцы культуролягі.*

Аднак побач з пашыральнікамі й дасьледнікамі культуры, якія, паводле славутае формулы Рэймона Кёно «Ты толькі плешчаш языком — гэта ўсё, што ты можаш», вельмі любяць гаварыць пра культуру, амаль не відаць тых, хто «робіць» саму культуру — мы, уцекачы, нецярпліва чакалі шэдэўраў літоўскай літаратуры, патаемна захаваных у шуфлядах, эпапэяў, што адкупіліся б за культ Сталіна-сонца, а пабачылі толькі *ridiculus mus*, сьмешную мышку Чытаючы *Перамогі**, якія, мабыць, чакаюць іншых перамогаў, мы дарэмна шукалі культурных дэбатаў, станоўчых або адмоўных, ацэнак новых твораў з дэмакратычным стукам кулакамі аб культурныя сталы — чшшш! — пануе плыткая ціша и аўтацэнзура. вось, прыкладам, часапісы высокае паэзіі й літаратуры адхілілі два мае артыкулы за тое, што ў адным я непачціва згадаў пра Ленінскую прэмію — Межалайціса, а ў другім — пасьмяяўся з Драздаўскаса**, мужа Люні Янушыте. Страшная нам дыктатура не Ландсбэргіса, а «цёмных сілаў»

Нарэшце заўважыўшы, што усе гавораць пра культуру.. але што кожны яе інакш разумее — або не разумее, — пастанавіў і я, абазваны іншымі Kulturwissenschaftler, усунуць сваё тры грошыкі, далучыць свой сабачы голас, што не даходзіць да неба, у культурны кашэчы канцэрт

## ВЫСОКАЯ КУЛЬТУРА

Апошнім разам, гадоў дзесяць таму наведваючы Літву, я быў запытаны адным суродзічам, ці шмат зьмяніліся літоўцы ад 1940 году Крыху падумаўшы, я адказаў: не, вы не зьмяніліся, наадварот — зьмяніліся мы. Такі адказ, хацеўшы быць парадаксальным, здаецца, пацьвярджаецца й цяперашнімі ўмовамі: культурныя формы літоўскага жыцьця, ня лічачы шматлікіх накінутых ім стэрэатыпаў расейскага сацыялізму, выглядаюць часта застылымі ў 50-гадовым зімовым сьне копіямі. Таму й хочучы зразумець цяперашняе ўспрыманьне культуры, якое пануе ў асяродзьдзі літоўскіх «інтэлігентаў», нялішне думкамі вярнуцца ў тую эпоху, паспрабаваць аднавіць нібы тагачасныя погляды й вычуваньні.

Я прыгадваю, што тымі часамі, у 1939 годзе, утрох, з Косу* і Хургінам**, скокаючы бы нязграбныя казулі па альпійскіх гарах, што мы тады думалі пра культуру і аб якой культуры для Літвы мы марылі Культура нам тады здавалася як несумненная, бясспрэчная, незалежная ад ніякіх дэфініцыяў каштоўнасьць, што характарызуе індывіды н нацыі ў іх найвышэйшых дасягненьнях, як слова, якое трэба пісаць зь вялікай літары і вымаўляць з пашанай, здымаючы капялюш Мы былі пасланыя ў Францыю «здабываць» культуру, каб «прывезьці» яе ў Літву

Аднак у той культурнай эўфарыі мы ўжо болей не былі наіўныя й прынамсі добра ведалі, якой «культуры» мы болеи не хацелі: літоўскіх нагавіцау, літоўскіх вясельляў, вы сакародных літоўскіх дзесячоў, мастацтва Жмуйдзінавічуса*, мовазнаўства Бальт-шыконіса** (так яго называў Косу), паэзіі Людаса Гіры*** і іншых падобных рэчаў Мы хацелі ўжо не «літоускаи» культуры, а проста — культуры Адмаўляючыся надалей сьпяваць, паводле Радаўскаса****, «пра садочкі і вяночкі», мы ў літоўскай культуры хацелі мець адлюстраваньне чалавечае культуры Кажучы прасьцей, мы патрабавалі ўсе зьявы літоўскае культуры ацэньваць толькі высокімі эўрапейскімі стандартамі

Спрабуючы абагульніць тагачасныя культурныя настроі, трэба, вядома, перш за ўсё разумець культуру як гістарычны працэс, які пакідае па сабе розныя, адзін на адным збудаваныя пласты дзед любіў Коро і Курбэ, бацька — імпрэсіяністаў, а сын ужо мог разабрацца ў Пікасо. Ясна, што наш тагачасны касмапалітызм быў усяго толькі авангардною зьявай, што вялікая маса інтэлігенцыі безь ніякіх дакораў сумленьня н надален любіла этнічную культуру фальклёрнага тыпу, а вёска й надалей чытала — і добра рабіла — Тамаша Праставалосага*****

Слова авангард, стасаванае да мастацтваў, здаецца бязьвінным, нават пазытыўным. Аднак, ацэньваючы сацыялягічна, трэба прызнаць, што такое разуменьне культуры будзе *элітарнае:* у працэсе разьвіцьця такой культуры, як у вытворчасьці культурных каштоўнасьцяў, гэтак і у іх спажываньні, удзельнічае толькі невялікая частка нацыі, хоць і дапушчальна, што яе банілізацыя дэмакратызуе яе й робіць прымальнай усё шырэйшым пластам

Аднак немагчыма адразу пагадзіцца, што такое іерархічнае ўспрыманьне грамадзтва было б заснаванае толькі на эканамічных крытэрыях Высокае месца мастацтва праз усё дзевятнаццатае стагодзьдзе выяўлялася як барацьба паэта-мастака супраць буржуазіі, г зн. супраць усяго, што «нізкае». Іерархічнае разуменьне грамадзтва нетыповае для буржуазіі· ленінская арганізацыя рабочай клясы вылучае зь сябе пралетарыят як сьведамую «арыстакратыю» гэтае клясы; пралетарыят арганізуецца партыяй, а партыяю кіруюць тыя, каго Ленін называу «інжынэрамі душы», інакш кажучы — апаратчыкі, а цяпер — бюракраты Так што адданьне высокае культуры ў рукі «інжынэраў культуры» — яе творцаў і заўзятараў у кантэксьце таго часу зразумелае й прымальнае Застаецца толькі пытаньне, як гэты канцэпт можа быць прыстасаваны ў дрыгве дэмакратызаванага грамадзтва

## ЭЎРОПА Й КУЛЬТУРА

Выехаўшы аўтамабілем з Стамбулу, неўзабаве знойдзеш дарожны паказальнік з надпісам «У Эўропу», такі самы паказальнік, толькі ўжо іншай мовай, сустрэнеш і выбіраючыся з Салонікаў расейская інтэлігенцыя XIX ст абавязкова езьдзіла ў Эўропу.

Аднак пазначыць, якою дарогаю можна заехаць у Эўропу, гэта ўжо значыць ускосна прызнаць, што ты ў не-Эуропе. Здаецца, што адзін з асноўных парамэтраў вызначэньня мяжы Эўропы — рэлігія, калі разумець яе як форму культуры, а менавіта каталіцкае й пратэстанцкае хрысьціянства Гэта істотны фактар фармаваньня эўрапейскай культуры, аднак ясна, прыкладам, што грэк, едучы ў Парыж, не імкнецца спэцыяльна наведаць сем цэркваў, а ўвогуле — «падыхаць культурай».

Эўропа такім чынам сталася, не раўнуючы як у чарадзейных казках, пэўнай мітычнай прасторай, дзе незвычайныя рэчы адбываюцца пад зямлёй, у небе, у вадзе, у паветры,

* Літоўскі адпаведнік «Полымя».
** Левы літаратар у 1940 пераклаў «Паднятую цаліну»

* Ёнас Косу-Александравічус — паэт эсэіст
** Перакладчык Шэкспіра й Дантэ

* Салённы мастак «нацыянальна вытрыманых» сюжэтаў
** Унармавальнік літоўскаи літаратурнай мовы
*** Паэт – перасьпеўшчык фальклёру
**** Найярчэйшы літоўскі паэт «чыстага мастацтва».
***** Герой даўгіх вэрсыфікацыяў «для простых людзей» паэта Казіса Бінкіса

# Пра чалавека, які ўжо нічога не хацеў ведаць

Пэтэр Біксэль

«Не хачу ўжо нічога больш ведаць», — сказаў чалавек, які ўжо нічога не хацеў ведаць

Сказаць лёгка

Лёгка сказаць

У гэты момант зазваніў тэлефон

І чалавек, замест таго, каб вырваць тэлефонны кабэль і нічога больш ня ведаць, узяў слухаўку й назваў сваё прозьвішча

«Добры дзень», — сказаў хтосьці у слухаўцы

Ён таксама сказаў — добры дзень

— Цудоўнае сеньня надвор'е, — паведаміў хтосьці.

А чалавек не сказаў «Я не хачу гэта ведаць», ён сказаў: «О, праўда, цудоўнае»

Той зноў нешта сказаў

Чалавек адказаў яму, пасьля паклаў слухаўку, злуючыся, што даведаўся, якое на вуліцы надвор'е

Цяпер ён выцягнуў штэкер з гнязда, крыкнуўшы «І гэтага я не хачу ведаць! Я павінен гэта забыць!»

Сказаць лёгка

Лёгка сказаць

А за вакном сьвяціла сонца. Вядома, калі сьвеціць сонца, надвор'е цудоўнае

Чалавек зачыніў ваканіцы, аднак сонца прасочвалася праз шчыліны

Тады ён прынес паперу, заклеіў шыбы й застаўся сядзець у цемры

Так і сядзеў ён, пакуль не прыйшла жонка Убачыўшы заклееныя вокны, яна спыталася з жахам

— Што гэта значыць?

— Я адгарадзіў сябе ад сонца, — растлумачыў ён

— Дык у цябе ж няма сьвятла

— Гэта адзіны мінус, — згадзіўся ён — Аднак лепш я буду сядзець безь сьвятла, чым ведаць, што на вуліцы цудоўнае надвор'е

— А чым табе перашкаджае цудоўнае надвор'е? — зьдзівілася жонка Цудоўнае надвор'е цудоўна ўплывае на самаадчуваньне

— Нічога мне не перашкаджае Цудоўнае ці не. Я ўвогуле нічога не хачу ведаць пра надвор'е

— Запалі тады прынамсі сьвятло, — сказала жонка, шукаючы рукой уключальнік

Аднак муж схапіў дрот, на якім вісела лямпа, і адарваў яго, сказаўшы

— Я не хачу гэтага ведаць Я не хачу ведаць, што сьвятло запальваецца ўключальнікам

Тады жонка заплакала

Муж сказаў

— Я ўвогуле нічога не хачу ведаць

Паколькі жонка й надалей не разумела яго, яна перастала плакаць і пакінула мужа аднаго

Доўгі час ён сядзеў у адзіноце. Калі прыходзілі госьці й пыталіся пра яго, жонка адказвала

— Муж сядзіць у цемры, бо нічога ня хоча ведаць Вось так

— Чаго ня хоча ведаць? — дапытваліся госьці

Жонка тлумачыла

Працяг на старонцы 14

г. зн у іншым месцы. Аднак гэта разам з тым і сымбалічная прастора, у якой разьмясьціліся ўсе сыстэмы каштоўнасьцяў, усе крытэрыі, паводле якіх вызначаецца вартасьць паводзінаў, чалавека, твора. Чэскі пісьменьнік або крытык, думаючы пра твор таго ці іншага свайго суродзіча, нават несь вядома параўноўвае яго з эўрапейскімі стан- дартамі Такім чынам Эўропа — ня толькі аксіялягічная прастора, але й асаблівы калектыўны пэрсанаж, адначасна вызначальнік лёсу й судзьдзя, які валодае сфэраю ўсіх культурных каштоўнасьцяў

Дваццаць пяць гадоў таму на зьезьдзе Сьвятла-Згоды* я безь вялікага посьпеху спрабаваў пераканаць сваіх суродзічаў у вялікай важнасьці мітаў Ва ўпарадкаваньні нашага штодзеннага й грамадзкага жыцьця міты займаюць значнае месца гэта ідэалёгіі й вераваньні, выказаныя ў фігуратыўных формах Эўропа для літоўца — такі рэальны й магутны міт, і любыя размовы пра літоўскую культуру без пастаяннай спасылкі на Эўропу будуць марныя

## КУЛЬТУРА Й НАЦЫЯ

Праблема дачыненьняў індывіда й нацыі ў эўрапейскай эпістэме ўзьнялася ў другой палове XVIII стагодзьдзя ў нямецкім культурным кантэксьце, яе можна сымбалічна абазначыць як непрымірымы антаганізм Гётэ й Гэрдэра. Гётэ — гэта тыповы гуманіст эпохі Асьветніцтва, які верыць ва ўнівэрсальную, агульную для ўсяго чалавецтва прыроду чалавека, якая и абгрунтоўвае таксама агульную сыстэму каштоўнасьцяў: веру ў чалавечы розум, у няспынны прагрэс чалавецтва, ва ўсемагутнае значэньне ведаў, якія выпрацоўваюць маральныя каштоўнасьці, і, вядома, у няспынны рост свабоды індывіда Назіраючы з кагорты першую выйграную Францускай Рэвалюцыяй бітву пад Вальмі, ён мог усклікнуць. «Гэта найпрыгажэйшы дзень у маім жыцьці!» Гэрдэр — ня менш прывабная асоба ён узвышае нацыю як жывы арганізм агульнага лёсу, агульнай культуры, выяўленай у асобнай мове Культура для яго — ня вынік індывіда, вынаходлівасьці яго розуму, а арганічная уласьцівасьць нацыі, выяўленьне яе спэцыфічнага генія

Гэткая непрымірымасьць двух канцэпцыяў чалавека — яго прыроды, яго ролі й месца ў сьвеце расьцягваецца на два апошнія стагодзьдзі эўрапейскае культуры, няспынна спараджаючы канфліктныя сытуацыі З аднаго боку мы маем справу з «старымі» нацыямі, Францыяй, Англіяй у іх выпадку нацыі былі створаныя дзяржавамі, а не наадварот, і літоўцу, прыкладам, незразумела, як эльзасец зь нямецкім прозьвішчам, германскай роднай мовай можа быць вялікім францускім патрыётам У іншых краінах Нямеччыне й Італіі, дзяржавы утварыліся ужо толькі ў XIX ст. паводле прынцыпу этнічна моўнага аб'еднаньня Працэс адраджэньня й самавызначэньня «новых», «маладых» эўрапейскіх нацыяў, які пачаўся на пачатку XIX ст — гэта праява прымату этнічнае культуры этнічнае супольнасьці

Пакуль правы й бітвы за свабоду этнічных супольнасьцяў упісваюцца ў агульны працэс прагрэсу чалавецтва, яны спалучаюцца з правамі індывіда на свабоду і яе грамадзкае выяўленьне — дэмакратыю Вінцас Кудзірка безь вялікіх цяжкасьцяў мог быць літоўцам і дэмакратам Аднак такі заснаваны на раўнавазе стан — зьява далёка не нармальная. «Сьпеўная рэвалюцыя» была выяўленьнем арганічнага літоўскага нацыянальнага адзінства, а наступны па ей адліў вызначаецца буяньнем «дэмакратычнасьці» — у самых наіўных і нават бязглуздых яе формах Томас Венцлава востра, справядліва й адчувальна ўзьняў пытаньне літоўска-жыдоўскіх дачыненьняў, аднак калі чытаеш яго, так і застаецца не зусім зразумелым, ці літоўская нацыя калектыўна на ўсе вякі вінаватая за забойствы жыдоў, або кожны літовец паасобку адказны за свае дзеяньні.

Вось жа, нялёгка быць адначасна і літоўцам*, і чалавекам

## РОЎНАСЬЦЬ КУЛЬТУРАЎ

Антрапалёгія, якая разьвілася ў XX стагодзьдзі, прызвычаіла нас да крыху іншага разуменьня чалавечае культуры. Паняцьце культуры, якое дагэтуль закранала толькі белую расу ("як жа можна быць пэрсам?" — паўжартам пытаўся Мантэск'ё) і толькі Эўропу (Амэрыка, прынятая як «белая», была да другой сусьветнай вайны толькі прычэпам Эўропы), пачало стасавацца й да экзагенічных цывілізацыяў (Кітай, Індыя), і нават да «дзікіх супольнасьцяў» (архаічных, безь пісьменства, без гісторыі й г д ) Гэтае паняцьце сталася сродкам вызначэньня й характарыстыкі разнастайных рысаў чалавечае дзейнасьці розных этнічных супольнасьцяў. З пашырэньнем вартага чалавечае ўвагі сьвету за межы Эўропы тое, што было для нас экзотыкай, сталася культурай, а экзотыка засталася аб'ектам турыстычных забаваў ніжэйшых сацыяльных пластоў

Вось жа ў гэткім кантэксьце выявілася н зацьвердзілася славутая антыномія *культуры й натуры*, сфармуляваная Леві-Стросам· усё, што робіць чалавек, трансфармуючы, прыстасоўваючы для сваіх патрэбаў прыроду — пачынаючы ад вынаходу агню й прыкрыцьця плоці — гэта ўжо зьявы культуры Таму й напісаная ім у 1945 годзе на замову ЮНЭСКА кніжачка пра роўнасьць культураў і расаў сталася маніфэстам, які абвяшчаў новае разуменьне культуры

Мала хто ў тыя часы наважваўся запярэчыць такой высакароднай ідэі роўнасьці культураў І голас Ражэра Кайюа, рэдактара галоўнага тагачаснага часапісу ЮНЭСКА *Diogène*, здаваўся непаразуменьнем, нявартым адказу — Так, — казаў ён, — усе культуры роўныя, з той розьніцай, што мы, заходнікі, можам, мы ў стане мысьліць іншыя культуры, тым часам як іншым культурам гэта нават у галаву не прыходзіць

Аднак прадказаны Шпэнглерам *Untergang des Abendlandes* ужо быў пачаўся, і заходняя цывілізацыя адкрыла пэрыяд мазахістычнага самавінавачаньня й адмаўленьня сваіх каштоўнасьцяў Даваеннае разуменьне высокае культуры зьнесьлі на склад старое мэблі, замест яго ў якасьці мадэлі прыкладу прапанусцца ў найлепшым выпадку «the American way of life» Сусьветную Дэклярацыю Правоў Чалавека падпісалі дыктатарскія й рабаўладальніцкія дзяржавы з радасьцю й згодай Захаду Дэмакратыя культураў была прыкрытая ўсеагульным вэлюмам легальнае крывадушнасьці. «Новаадкрытыя» культуры ад такога ўшанаваньня нічога асаблівага ня выйгралі, аднак тым самым часам нашыя патрабаваньні да заходняй культуры значна паменшыліся

## КУЛЬТУРА Й МАРАЛЬ

Адзін расейскі дысыдэнт на нейкі час знайшоў прытулак у маім сэмінары, і я папрасіў яго пазнаеміць нас з тэорыяй сэміётыкі ягонага настаўніка Юрыя Лотмана Трэба сабе ўявіць зьдзіўленьне й поўнае неразуменьне слухачоў, калі яны пачулі, што культуру нібыта можна ахарактарызаваць, супрацьстаўляючы яе не натуры, а *варварству* Варварства, зразуметае як скрайняе асуджэньне ўсяго таго, што пярэчыць культуры, прыгадвае нам ужо разгляданае паняцьце культуры як

Працяг на старонцы 14

* Эміграцыйнае згуртаваньне лібэральных літоўскіх дзеячоў культуры

* — беларусам

# Пра чалавека, які ўжо нічога не хацеў ведаць

*Працяг са старонкі 13*

— Нічога. Ен увогуле нічога ня хоча ведаць Ня хоча ведаць таго, што можна ведаць Скажам, якое можа быць надвор'е Ня хоча ведаць і таго, што можна пачуць Скажам, што пра гэта гавораць людзі. Ня хоча ведаць і таго, што ўжо вядома Скажам, што сьвятло запальваецца выключальнікам Вось так, — гаварыла жонка

— Ага, — гаварылі госьці й больш не прыходзілі

А мужчына тым часам сядзеў у цемры. Жонка прыносіла яму ежу Калі яна пыталася: «Чаго ты ўжо ня ведаеш?», ен адказаваў «Ведаю яшчэ ўсё» І быў маркотны

Бачачы гэта, жонка сказала, каб падбадзерыць яго·

— Аднак ты ня ведаеш, якое на вуліцы надвор'е

— Гэтага я сапраўды ня ведаю, — адказваў ен — Аднак я магу сабе ўявіць, якое яно можа быць Я памятаю сонечныя дні й дні дажджлівыя

— Забудзеш

На гэта муж адказаў

— Легка сказаць

Сказаць легка

Ен і надалей сядзеў у цемры, а жонка прыносіла яму ежу Мужчына гаварыў, гледзячы на талерку.

— Я ведаю, што гэта бульба, а гэта капуста Нічога не дапаможа, я буду ведаць гэта заўсёды Я ведаю, якія я вымаўляю словы.

Калі наступным разам жонка спыталася «Што ты яшчэ ведаеш?», ен адказаў

— Я ведаю больш, чым ведаў калісьці Я ведаю, напрыклад, ня толькі, як выглядае кепскае ці добрае надвор'е, але й тое, як выглядае ўсё, калі надвор'я няма. Акрамя таго я ведаю, што ў цемры не зусім цёмна.

— Аднак есьць рэчы, пра якія ты нічога ня ведаеш, — сказала жонка ўжо каля дзвярэй.

Заінтрыгаваны муж затрымаў яе. Тады яна сказала:

— Ты ня ведаеш, напрыклад, як слова «надвор'е» гучыць па-кітайску, — і яна выйшла, зачыняючы дзьверы

Мужчына, які ўжо нічога не хацеў ведаць, пачаў думаць. Ен сапраўды ня ведаў кітайскай мовы й нонсэнсам было б гаварыць — я ўжо нічога не хачу пра гэта ведаць — бо ен пра гэта яшчэ нічога ня ведаў.

«Спачатку я павінен вырашыць, чаго я не хачу ведаць», — сказаў ен, адчыняючы вокны й ваканіцы На вуліцы йшоў дождж Мужчына пастаяў ля вакна, гледзячы на дождж Пасьля вырашыў пайсьці й купіць падручнік кітайскае мовы Вярнуўшыся дамоў, ён засеў за падручнік, вучачыся чытаць і пэндзлем пераносіць на паперу кітайскія знакі

Калі прыходзілі госьці й пыталіся пра яго, жонка гаварыла

— Муж вучыць кітайскую мову Вось так

І госьці перасталі прыходзіць

Кітайскую мову можна вывучаць гадамі І чалавек павінен быў прысьвяціць шмат часу, каб авалодаць гэтай мовай. Тады ен падумаў: «Я яшчэ ня ўсё ведаю. А каб ведаць, чаго я не хачу ведаць, я павінен ведаць усё Я павінен разьбірацца ў вінах, як адрозьніць добрае ад дрэннага Калі я ўжо ем бульбу, дык павінен ведаць, як яе вырошчваюць. Я павінен ведаць, як выглядае месяц, бо, гледзячы на яго, я ня ведаю пра яго нічога. Я павінен ведаць назвы зьвяроў, як яны выглядаюць, як сябе паводзяць, як жывуць »

Ён купіў кніжку пра гадаваньне трусоў, курэй, пра жыцьцё лясных зьвяроў Урэшце ён купіў кнігу пра насарога

Ён вырашыў паглядзець на яго ў заапарку Пайшоў туды. Насарог стаяў на месцы й ня рухаўся

# СЁЕ-ТОЕ ПРА КУЛЬТУРУ

*Працяг са старонкі 13*

сукупу трансцэндэнтных каштоўнасьцяў, аднак з той розьніцай, што адсоўваючы ўбок, хаваючы эпістэмныя й эстэтычныя вартасьці, культура ўваччу інтэлігенцыі з Усходу стаецца сынонімам этыкі, асноўным крытэрыем маральнае ацэнкі індывіда й грамадзтва

Тым часам як мараль у атмасфэры роўнасьці культураў ня можа лічыцца нават адным з вымераў культуры — бо немагчыма ж спытацца ў антраполяга, ці жыхары Саламонавых астравоў «культурныя», г зн маральныя, або не — калі ў заходнім кантэксьце яна замяняецца паняцьцямі ветлівасьці або і ўвогуле «прыгожых звычаяў», маральная ацэнка культуры, якая нібыта вяртаецца з Усходу, ня можа зноў ня ўзьняць агульную праблему культурных каштоўнасьцяў. Можна, вядома, лёгка іранізаваць, прыгадваючы маральную кампанію М Гарбачова, калі прапаноўвалася замяніць гарэлку рэлігіяй і прыняць яе не як «опіюм для народу», а як «лек для народу», можна, вядома, усьміхацца, назіраючы спробы нашага Каталіцтва аднавіць традыцыйныя повязі паміж мараль(л)лю й рэлігіяй, адну грунтуючы на другой і наадварот Можна з усьмешкай, але ўжо больш спагадна глядзець на філязофію д-ра Грынюса*, паводле якой культурны літовец — гэта прыстойны літовец, а прыстойны літовец — гэта добры каталік які нягоднік наважыцца выказацца супраць маральнасьці літоўскіх гімназістак або супраць высакароднасьці кіруючых палітыкаў у Літве? — Гэтая прывабная філязофія робіцца небясьпечная толькі тады, калі яна прэтэндуе на тое, каб лічыць мараль меркаю мастацкае творчасьці, ня розьнячыся ў гэтым ад замоўленага Жданавым культу герояў і выкрыцця нэгатыўных тыпаў Таму скажам сур'ёзна рэлігія як адна з асноўных формаў культуры, як запрашэньне чалавека да трансцэндэнцыі — занадта вялікая рэч, каб яе можна было зьмешваць з грамадзкай маральнасьцю

## НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА

Крыху інача справы маралі й культуры выглядаюць у камуністычным кантэксьце. Калі Луначарскі, першы, здаецца, расейскі камісар асьветы, заявіўшы, што добрым камуністам можа быць толькі той, хто «пераварыць» Дастаеўскага, сацыялістычную мараль лічыў асабістай перамогай індывіда на фоне гістарычнага прагрэсу над «буржуазнай» культурай, гэткі ягоны погляд неўзабаве быў заглушаны ленінскім падыходам да маралі: маральна ўсё тое, што карысна партыі, г зн. пралетарыяту, які кіруе маторам гісторыі Прынцып, паводле якога дзеці мусяць прадаваць сваіх бацькоў, маральны, гэта нармальнае наступства бегу чалавечае гісторыі

Справы крыху паляпшаюцца — або пагаршаюцца, — калі Сталін пачынае цікавіцца прызначэньнем літаратуры й мастацтва. Дылема· або мастацтва прыстасоўваць да культурнага ўзроўню народу, або народ набліжаць да разуменьня мастацтва й яго патрабаваньняў — была вырашана на карысьць *народнаи культуры*. Жданаўскі сацыялістычны рэалізм — гэта перш за ўсё абясцэньваньне паняцьця высокай культуры, але гэта разам з тым і «рэалізм», г зн разуменьне мастацтва як фатаграфіі жыцьця, якое пазбаўляе паняцьце мастацтва любога аксіялягічнага зьместу

Выратаваць жданавізм у заходнім кантэксьце спрабаваў італьянскі марксыст Грамшы: зыходзячы ўжо з заходняе канцэпцыі культуры — як сукупу формаў, у якіх выяўляецца чалавечая дзейнасьць у грамадзтве, ён выдзяляў у грамадзтве й ягонай культуры два аўтаномныя пласты, зь якіх ніжэйшы гэтак званая масавая культура, варты ўслаўлень ня як рухавік гістарычнага працэсу, прышчапляючы такім чынам жданавізму немалую дозу ідэалізацыі, я б нават сказаў — сэнсу Гэтая тэорыя, якая мела паважны ўплыў толькі ў Паўдзённай Амэрыцы, была апошнім узбрыкам марксызму, спробай яго аднавіць, і на сёньняшні дзень засталася толькі ў падсьведамасьці левых інтэлектуалаў

## МІКРАКУЛЬТУРЫ

Такое зьмешваньне культуры й ідэалёгіі мае паважныя наступствы Меркаваньне, нібы ўсё або што заўгодна можа быць культурай, дазваляе стасаваць гэтае паняцьце да любой выявы грамадзкага жыцьця Калі пралетарыят як гэткі на Захадзе зьнік, а былая рабочая кляса страціла сваю «сьвядомасьць» і разьдзялілася на розныя культурныя пласты, разьвілася гэтак званая групавая культура. Асабліва шматлікія ў Італіі групы тэрарыстаў-рэвалюцыянэраў пачынаюць дзеяць паводле сваёй «культуры тэрору», ім адпавядае ваяўнічы тэрарызм у Нямеччыне. Гэткая культура, здаецца, на сёньня захавалася толькі ў Перу ў ідэалёгіі «Прамяністае сьцежкі»

З згасаньнем сатэрычных, скіраваных на ўратаваньне чалавецтва ідэалёгіяў, калі спажывальніцкае грамадзтва ня можа запрапанаваць моладзі ніякіх сэнсавых мадэляў дзейнасьці або жыцьця, застаецца толькі адзін шлях — выступленьне супраць або аддаленьне ад такой культурнай пазыцыі. Гэтак і нараджаюцца разнастайныя антыкультуры й контркультуры, якім, можа, можна было б даць агульны назоў *hippy*-культураў. Выяўляючыся ў стварэньні малых супольнасьцяў або ў аднаасобным «культурным» бадзяжніцтве, гэтыя культуры вызначаюцца двузначнасьцю маральных рысаў· «прыгожыя пачуцьці» — адмаўленьне ад гвалту, мірнае каханьне, вэгетарыянства — часам незразумела спалучаюцца з сацыяльным і сямейным паразытызмам

Такія тэндэнцыі, памалу высьпяваючы, пакінулі глыбокі сьлед у грамадзкай мэнтальнасьці, апошнімі гадамі набыўшы формы экалягічных і «зялёных» рухаў

Апошні паварот гэтых мікракультураў — гэта ўсё больш разбуялыя на Захадзе культуры прадмесьцяў — асабліва хуліганаў і голагаловых, якім, як выглядае, яшчэ наканаваная цудоўная й вялікая будучыня, якая абяцае павышэньне попыту на сацыёлягаў ва ўнівэрсытэтах Спрабуючы зразумець гэтую зьяву канчатковага разбурэньня паняцьця культуры, можна яе часова акрэсьліць як утварэньне пазбаўленых усялякага яснага сэмантычнага зьместу мікраідэалёгіяў на падставе прынцыпу мінімальнае сацыяльнасьці, падобна быццю разам у воўчай зграі

Ужываючы модную фразэалегію, можна было б сказаць, што сымбіёз характэрнай для Захаду рок-культуры і характэрнай для Усходу поўнай адсутнасьці «культуры працы» абяцае даць у выніку ідэальную супольную культуру будучыні Такім спосабам рэалізавалася навязваная Літве некаторымі нашымі філёзафамі місія — быць арэнай сынтэзу Усходу й Захаду

## РОК-КУЛЬТУРА

Я запытаўся раз у аднаго музыколяга, ці рок — гэта музыка, інакш кажучы, ці гэта толькі, хоць і значная, але ўнутраная зьмена ў музычнай парадыгме, якую можна вытлумачыць паступовым павышэньнем ролі пэркусійных інструмэнтаў ад пачатку XX стагодзьдзя і заменай мэлёдыі рытмам, або гэта ўжо зусім аўтаномны культурны фэномэн Ен мне аптымістычна й па-саламонаўску патлумачыў, што гэта ўсё ж можна называць музыкай, але што гэта болей, чым музыка, што гэта пераступае межы

* Ёнас Грынюс — літаратурны крытык каталіцка маралізатарскага ўхіла.

Чалавек заўважыў, што насарог прабуе неймаверным намаганьнем сабрацца з думкамі й нешта ўразумець А калі яму штосьці прыходзіла ў галаву, ен радасна пачынаў бегаць коламі й пасьля трох-чатырох колаў забываў, ш т о фактычна ўразумеў. Затрымліваўся, стаяў гадзіну-другую, каб зноўкі кінуцца наперад, калі яму штосьці прыйдзе ў галаву.

«Хацеў бы я быць насарогам, — падумаў чалавек, — аднак гэта, відаць, ужо позна»

Дома ен думаў толькі пра насарога

«Мой насарог, — думаў ен, — вельмі павалі думае й хутка пачынае бегчы, і такі спосаб паводзінаў ёсьць слушны»

І ен забыўся пра тое, што яшчэ хацеў бы ведаць, каб пра гэта ня ведаць больш нічога

І жыў сабе, як і раней

З тым толькі, што цяпер ен ведаў яшчэ н кітайскую мову

Зь нямецкай мовы пераклаў Уладзіслаў Струміла



*Здымак Алены Адамчык*

музыкі року характэрны тупат і крыўляньне — гэта «музычны» баль, у якім удзельнічаюць усім сваім целам ня толькі вытворцы гуку, але й іхныя слухачы

Далей я ўжо сам працягваў свае развагі дваццаць гадоў таму ў навуцы было ўсеагульна прынята, што мова музыкі адрозьніваецца ад мовы шуму ўжо хоць бы тым, што яны ў мозгу рэгіструюцца ў двух розных месцах Розьніца паміж музыкай і рокерам, які «музыкуе» ўсім сваім целам адпавядае разьмежаваньню паміж музыкай як выяўленьнем у аўдытыўным пляне мастацкіх формаў і музыкай як спэцыфічнай культурай — «музычнай культурай», якая выяўляецца ў рытмічным раздражненьні ўсёй сэнсарна-маторнай сыстэмы цела

Гэткая інтэрпрэтацыя нагадвае й іншую разбуялую на Захадзе культуру — «культуру здароўя» Ідэалёгія здаровасьці зьнешне выяўляецца, вядома, разьвіцьцём вытворчасьці лекаў, што прыносіць штогод мільярдныя прыбыткі, пашырэньнем складанай лячэбнай тэхналёгіі ды гарантыямі сацыяльнага страхаваньня, а таксама — усеагульнай пашанай да здаровага цела, здаровага чалавека, карацей кажучы — шчырым культам здароўя Дзяржаўныя бюджэты аховы здароўя перавышаюць ня толькі бюджэты ўзбраеньня — з гэтым можна было б цалкам пагадзіцца, — але й выдаткі на выхаваньне й навучаньне Здароўе атаясамліваецца з «жыцьцём» да тае ступені, што, паводле агульнага перакананьня, чалавек ня можа памерці натуральнай сьмерцю, бо ен памірае толькі ад той або іншай хваробы нявытлумачаная сьмерць выглядае падазрона, ганебна

Такі культ цела й здароўя быў бы добрай справай — вядома, ужо ня згадваючы пра цяпер ужо нямодную штогадовую сьмерць ад голаду 50 мільёнаў дзяцей Трэцяга Сьвету — калі б ён не ператвараўся ў самамэту. Прынцып тых, хто практыкуе культуру здароўя вельмі просты. ці ты курыш? — не! — ці ты п'еш? — не! — ці ты кахаесься зь дзяўчатамі? — не! — Дык нашто ж ты жывеш? — Каб быць здаровым Гэта ня гумар, а жыцьцёвы ідэал мільёнаў маладых людзей Рок-культура вучыць чалавека адмаўляцца думаць і жыць адным толькі пачуцьцёвым досьведам, а культура здароўя — гэта праграма ідэалёгіі штодзённасьці, і яшчэ болей — бязмэтнасьці, бессэнсоўнасьці

Гаворка ндзе ня толькі пра нездаровую музыку здаровага чалавека Возьмем жывапіс, хоць імя жывапісу, якое традыцыйна абазначае мастацкія формы, рэалізаваныя на двухмернай паверхні, ужо не адпавядае нашым трохмерным і часта зусім не заляпаным прасторам. Адзін мои вучань, спэцыяліст у эстэтыцы, чытае лекцыю пра мінімальныя формы мастацтва і, напрыклад, паказвае дзьве вэнджаныя рыбіны, вывешаныя японскімі рыбакамі недзе ў прымор'і — Чым гэтыя дзьве рыбіны розьняцца ад рыбінаў у штодзённым жыцьці? — наіўна пытаюся я — Кожны вобраз сьвету можа стацца мастацтвам дзякуючы спэцыфічнаму позірку гледача, — адказвае ён — Я дарэмна спрабаваў навязаць неабходнасьць якіх-небудзь карцінных рамак, якія адмяжоўвалі б мастацтва ад штодзённасьці У сьвеце, такім, які ён ёсьць сёньня, чалавечы позірк не паэтызуе штодзеннасьці — штодзённасьць вульгарызуе мастацтва. Кіч або спаўненьне мараў Жданава?

## КУЛЬТУРА ШЧАСЬЦЯ

Паскудна робіцца, калі кінуць вокам на гэтае дваццатае стагодзьдзе, на якое ўскладалася столькі спадзяваньняў, у якім было перажыта столькі расчараваньняў Які пасаг абяцае яно, які дарунак можа прынесьці Літваньцы, нашай каралеўне, што памалу будзіцца ад сну? Якія багацьці яна зможа й захоча выбраць сабе ў гэтым культурным заходнім супэрмаркеце?

Я не люблю дашуквацца прычынных сувязяў — яны заўсёды неадназначныя й нічога не тлумачаць, — якія б дапамаглі зразумець цяперашняе банкруцтва Захаду: залішне хуткі тэхналягічны прагрэс, спажывальніцкае грамадзтва, масавая дэмакратызацыя, крызыс ідэалёгіяў, крах паняцьця прагрэсу Найгоршае: гэта нават не банкруцтва Ўол Стрыт з банкірамі, што скачуць з вокнаў небасягаў ці кладуць галовы пад паравозы, не, гэта шчасьлівае чалавецтва, што знайшло «жалудок» і ўсьміхаецца ўсьмешкаю вясковага дурня Відаць, усяго наспрабаваўшыся, XX-е стагодзьдзе нарэшце знайшло апошнюю мэтамарфозу культуры — *культуру шчасьця*

І страшна падумаць, што, азірнуўшыся на Захад, гартаючы дастаўлены на дом каталёг культураў, Літва можа выбраць сабе найлягчэй даступную культуру шчасьця, што яна можа вырашыць стацца шчасьлівай і замест смачных катлетаў пачне есьці гамбургеры, замест квасу піць шчасьцядайную кока-колу Калі там адчыняецца першы Макдоналд у Вільні?

## ЭЎРОПА Й ЛІТВА

Неяк раз, аналізуючы прамову кандыдата ў прэзыдэнты, мы налічылі, што за пяць хвілін ен дваццаць разоў паўтарыў слова: *трэба!* Вядома, што трэба Такімі безасабовымі парадамі, якія ні да чога не абавязваюць ні таго, хто піша, ні таго, хто чытае, я б і хацеў закончыць гэтыя разважаньні. Аднак жа такія «трэба», зразуметыя як адказнасьць перад сабою, перад нацыяй і перад чалавекам складаюць толькі наш *гарызонт будучыні*, у які ўпісваюцца й нашыя хаценьні, і абавязкі, і неабходнасьці

— Свабода, як некалі казаў Сартр, гэта выбар паміж некалькіх неабходнасьцяў. Літоўцы, стукаючы ў дзьверы Эўропы, абвяшчаюць перш за ўсе сваю волю да свабоды Свабода — гэта не насьледаваньне заходняй модзе, а выбар прапанаваных ёй культурных каштоўнасьцяў, культурных формаў жыцьця

— Эўропа, і ўвогуле Захад, сеньня перажываюць глыбокі культурны крызыс, гэтак званы крызыс тоеснасьці. А крызыс — гэта перш за ўсё ўсьведамленьне краху наяўных каштоўнасьцяў і жаданьне іх пераацаніць. У гэтым Umwertung aller Werte і літоўская нацыя, ня менш за іншыя, мае права сказаць сваё слова, права, у якім ёй не адмовяць ніякія юрысты

— Нядаўна гаворачы пра літоўцаў, Чэслаў Мілаш ахарактарызаваў іх, паводле традыцыйнай польскай ацэнкі, як *амбіцыйных і ўпартых* Гэтую сваю амбіцыю, зразуметую як жаданьне праектаваць і арганізоўваць будучыню, яны нядаўна паказалі, распрацоўваючы й прапаноўваючы іншым савецкім нацыям мадэлі *мірнага пасвабадненьня* Такую палітычную перамогу цяпер «трэба» ўпарта працягваць і ў іншай галіне — актыўна ўдзельнічаць у выпрацоўцы эўрапейскіх культурных мадэляў, культурных формаў паводзінаў, жыцьцёвага стылю А прызнаньне высокай культуры, адмысловага літоўскага генія, Нобэлеўскія прэміі ды іншыя мэдалі знойдуцца самі Калі ўжо Бог чаго даў, дык і «з каптуром»

Пераклаў зь літоўскае Сяргей Шупа

*«Baltos lankos», №1, 1991*

# Bubo Bubo

*Вось сымбаль твой,*
*забыты краю родны!*

Атрад совападобных (strigiformes) налічвае каля паўсотні відаў, што жывуць па ўсім сьвеце за выключэньнем тэрыторыяў альбо надта малых (выспы ў акіянах) альбо надта халодных (дзе ніхто наогул не жыве). Натуральна, водзяцца совы і ў Новай Зэляндыі. Тут найперш вядомыя Ninox novaeseelandinae, вельмі арыгінальная іголканогая сава, чый начны ўскрык вядомы кожнаму тубыльцу, а таксама ўжо вельмі рэдкая Sceloglaux albifacies сава-рагатуха

Паколькі драпежных птушак, у т.л. і соваў у Новай Зэляндыі наогул бракуе, іхнія функцыі пераймаюць часам папугі, якія пераймалі нават савінае аблічча. Такая kea (Nestor n ), якая атрымала сумную славу забойцы авечак, хоць у дачыненьнях зь людзьмі — гэта забаўная й цікаўная істота Яшчэ больш падобная да соваў начная папуга Strigops habroptilius альбо какапо. Удзень яна хаваецца ў лесе, дзе ў расколінах скалаў караных дрэваў прытулілася яе гняздо, а ўночы яна блукае па кронах дрэваў у пошуках ежы Ну, рыхтык сава

Назва папугаў гучыць падобна ў эўрапейскіх мовах (papageien, papegai, papagollo...). На Беларусі найбольш сугучны з гэтымі назоў мае пугач. Гэта ўжо сапраўды совападбная птушка. І самая вялікая з усіх прадстаўнікоў атраду Strigiformes, адна з найбуйнейшых птушак Беларусі. Пугач (Bubo Bubo) — вялізарная птушка вагою больш за 3 кг з магутнымі крыламі (у размаху каля 1 80 м)

Нескалі гэтая птушка была даволі звычайнай жыхаркай паўночных краёў. Ей прысьвечана багата фальклёрных ды літаратурных сюжэтаў У тым ліку й адзін з найлепшых вершаў у беларускай анімалістыцы:

...Калі агуліць змрок гушчар
Ён будзе цар і гаспадар
А ўдзень узбіўся ён на сук
Дрыжыць і ловіць кожны гук

Раней гэтая птушка наводзіла жах на нашых забабонных продкаў. Гэта няцяжка зразумець, калі хоць раз пачуць сярод ночы ў нетрах старога лесу яе вусьцішны крык.

Ўдзень яго пабачыць амаль немагчыма Пры дзённым сьвятле гэтая птушка становіцца нягеглай, блізкарукай, а таму старанна хаваецца ў пушчах. Нібы кожная істота імкнецца



адпомсьціць пугачу за начны жах. Кожная дзённая птушка й нават некаторыя совы імкнуцца падражніць бездапаможнага волата

Затое як толькі на паўночны лес апусьціцца цемрадзь сэрцы разумных і неразумных істотаў сьціснуцца ў прадчуваньні яго імклівага цяжкога палету й жахлівага поклічу. Грызуны, вожыкі й цецярукі, нават вароны стануць яго лёгкай здабычай. Бо суперніка ў верхавінах чорных ялінаў яму няма.

Недзе пад канец сакавіка пугач рыхтуецца займець нашчадкаў Гнёзды яго ніякаватыя, у любым цяжкадаступным месцы. Пад іх ён часам прыстасоўвае чужыя гнёзды. Вылупляюцца звычайна 2 3 птушаняты, у траўні. Маці вельмі руплівa наглядае за кладкай, пакуль пугач-самец гойсае ў пошуках некалькіх кіляграмаў сьвежыны

Адметнасьць пугачоў — гэта пух над вушнымі адтулінамі, што нагадвае сувора ссунутыя бровы, якія надаюць гэтаи птушцы разумны й мужны выгляд Сьпіна пугача брунатна-шэрая, а трыбух — жаўтавата-руды з буйнымі вэртыкальнымі й вельмі тонкімі папярочнымі чорна-бурымі палоскамі на кожным пяры.

Тыя, хто меў на Беларусі зброю адчуваў хутчэй сымпатыю да пугача як да калегі. Гэтая вялікая птушка не была ніколі аб'ектам паляваньня. Але ня гледзячы на паўсюднае жыхарства ў халодных краёх, колькасьць пугачоў няўхільна зьмяншаецца яны ўжо апынуліся ў Чырвонай Кнізе. Для высакародзтва не хапае прасторы. З-за зьнішчэньня старых пушчаў, з-за атручваньня палёў, дзе жывуць грызуны, зьнікае й пугач Памятаеце

...Упаў кавалачак кары...
Шкрабецца мышанё ў нары..
Завухкай з голаду заплач,
Пануры, згорблены пугач!

Некалі інсургенты й партызаны перагукваліся, імітуючы ягоны крык. Ён азначае што нехта выйшаў на начную сьцяжыну.

S H

# *Кукабака й Сымон-музыка*

*Гісторыю гэтую кожны сабака*
*За костку курыную распавядзе*
*Таких сяброў як сьмяцяр Кукабака*
*І Сымон-музыка, ня стрэнеш нідзе*

*Возіць Кукабака сьмецьце за горад*
*На старым грузавіку ў зялезнай скрыні,*
*А Сымон музыка развучвае творы*
*Баха, Бэтховэна и Паганіні.*

*Увечары Кукабака здымае ватоўку*
*І ў новых чаравіках і капелюшы*
*Ідзе да музыкі з пляшкаи «Зуброўкі»*
*Паслухаць што-небудзь для душы.*

*Часьцей за усе Кукабака у Сымона*
*Просіць сыграць — і, відаць, нездарма!*
*— Сюіту Грыга пра край сьцюдзёны,*
*Дзе цэлы год пануе зіма.*

*Зьбягаюцца у купу зоркі дробныя,*
*Каб паглядзець, як у проіме вакна*
*Кукабака й Сымон, такія непадобныя,*
*За клясыкаи бавяць свой час давідна.*

*А.М*



## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Вялікі дзякуй усім хто павіншаваў «НН» з 76-мі ўгодкамі незалежнасьці БНР

**Браніславу П з Бабынічаў.** Дзяржава якая мае гісторыю, ня мусіць увесь час перападаць свае падмуркі Калі на Беларусі ўлады аб'явяць сваю правапераемнасьць ад БНР пытаньне пра гімн адпадзе само сабою У незалежнай Беларусі ёсьць гімн І справа тут не ў эстэтычных вартасьцях У поўным сэнсе сёньняшні конкурс — немаральны. Гэтаксама можна аб'явіць конкурс на лепшую назву дзяржавы бо «Беларусь» для кагосьці «не гучыць», на лепшую гісторыю, на лепшую «красівейшую» маці..

**Юрасю П. з Горадні.** Думка пра слоўнік праф. Лепешава належыць аўтару думкі Іншаму аўтару можа належаць іншая думка У Вашым лісьце ёсьць думка пра думку, пра аўтара слоўніка і пра аўтара зьмешчанай у «НН» думкі пра слоўнік. Але іншае думкі пра сам слоўнік няма Дашлеце — надрукуем

**Уладзімеру С з Гомля** Мала канкрэтыкі — у тэме у манэры...

**Ігару Ц. зь Віцебску.** І ўсе ж кнігі менскіх выдавецтваў лягчэй даходзяць да Віцебска чым да Вільні. Уся кніжная прадукцыя выдавецтва «Наша Ніва» прадаецца ў кнігарнях на Беларусі.

**А.А.У з Магілёва.** Шкада, што ў развагах пра «асьветніцтва» і «ня наш гатунак» Вы ўпарта не заўважаеце паміж імі трэцяга — сябе. Урэшце і вашае «дыдактычнае асьветніцтва» і «пост-сэксуальная цемрадзь» — гэта два комплексы чалавечае непаўнавартасьці, спадчына савецкага часу. калі сэкс і беларушчына займалі ў грамадзтве аднолькавае месца. Але здаровая мараль ня можа быць раздвоенай. Чаму Вы не адгукнуліся на нашую прапанову напісаць пра сябе, сваё жыцьцё, свой горад? Нецікава? А Вы ўбачце ў гэтым цікавасьць і напішыце пра гэта цікава

**Д.Б. зь Менску** Ці то вы занадта грамадзкі чалавек ці настолькі прасякнуліся роляю «санітара», які, на іншы погляд, паразітуе на нядзарнасьці «руплівцаў», але Вашая настойлівасьць, як і Вы «ў цэлым» вартыя лепшага выкарыстаньня. Здаецца пэрыяду безальтэрнатыўнага калектывізму прыйшоў канец?..

# *«НАША НІВА» ТРЫ ГАДЫ РАЗАМ*



**НАША НІВА** №4(22) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец Павал Жук. Адрасы для допісаў: 2041 Вільня а/с 2082 і 220123, Менск а/с 71. Падпісны індэкс у Літве: 67233, на Беларусі: 63125. Рэдакцыя (Вільня, Жыгімонта 2/2): Алег Мінкін (адк. сакратар), Сяргей Шупа (літ. рэдактар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар). Менскае бюро (Менск, Іванаўская 56): Алег Дзярновіч (загадчык) Ігар Бабкоў (дыскурс). Рэдакцыйная Рада: Уладзімер Арлоў Сяргей Астраўцоў, Адам Глебус, Лявон Луцкевіч, Генадзь Сагановіч Афсэтны друк Фармат А3 Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск праспэкт Ф.Скарыны, 79) Замова 560